№№139–140
(3678–3679)
7 верасня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІЗІТ

## З чым едзе спадар Мільёры?

*Высокія еўрапейскія чыноўнікі заракаліся, што ў Мінск і нагой не ступяць, пакуль у Беларусі не адбудуцца сур'ёзныя палітычныя змены, але няма таго слова, якое нельга забраць назад. У нядзелю ў Мінск прылятае старшыня Парламенцкай асамблеі АБСЕ Рыкарда Мільёры.*

Пра будучы візіт паведаміў старшыня Палаты прадстаўнікоў і кандыдат у дэпутаты новага склікання Уладзімір Андрэйчанка. Па яго словах, ліст з паведамленнем пра візіт аднаго з высокіх еўрапейскіх прадстаўнікоў атрымаў беларускі парламент. Безумоўна, рашэнне Рыкарда Мільёры асабіста прыбыць на перамовы ў сталіцу "апошняй дыктатуры Еўропы" можна лічыць першым сур'ёзным знешнепалітычным поспехам новага кіраўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства Уладзіміра Макея. На візіт кіраўніка ПА АБСЕ мала хто спадзяваўся, асабліва ўлічваючы кампанію дыскрэдытацыі кіраўніка місіі назіральнікаў АБСЕ, якія прыехалі ў Беларусь, каб на свае вочы бачыць, як у нашай краіне праходзяць выбары, што некаторы час таму была разгорнута афіцыйнымі беларускімі СМІ.

І ўсё ж адносіны паміж Беларуссю і Еўропай такія, што для візіту ў Мінск Рыкарда Мільёры павінен быў мець вельмі сур'ёзныя падставы. Ці можа стацца так, што сваім візітам у Мінск старшыня ПА АБСЕ адчыніць дзверы з турмаў для беларускіх палітвязняў?



**Людміла Гразнова, праваабаронца:**

— Я думаю, што спадзявацца на гэта можна. Зразумела, што старшыня ПА АБСЕ едзе ў Мінск не проста так, а з нейкімі канкрэтнымі прапановамі. І вызваленне палітвязняў застаецца галоўным патрабаваннем Еўропы. Калі беларуская ўлада ўсвядоміла неабходнасць наладжвання стасункаў з ЕС, то пойдзе на такі крок. Ну а калі наша ўлада знаходзіцца ў палоне нейкіх іншых канцэпцый, то палітвязні застануцца ў турмах. Сітуацыю я расцэньвала б як 50 на 50, а з улікам таго, што прыязджае асабіста старшыня ПА АБСЕ, дык нават болей на карысць хуткага вызвалення палітвязняў.

**Аляксандр Фядута, адзін з кіраўнікоў кампаніі "Гавары праўду!", адзін з асуджаных за "Плошчу":**

— Усё можа быць. Але ніхто і нічога ў гэтай сітуацыі не можа ведаць дакладна.

**Валянціна Аліневіч, маці палітзняволенага Ігара Аліневіча:**

— У глыбіні душы, зразумела, мы ўсе спадзяёмся... Але вельмі цяжка разважаць цвяроза, калі размова ідзе пра лёс самага дарагога, што ты маеш, — пра лёс твайго дзіцяці. Я не палітык, мне цяжка нешта прагназаваць, але я не веру ў хуткае вызваленне палітвязняў. Можа, аднаго-двух для праформы выпусцяць, але... Калі б наша ўлада хацела зняць гэтае пытанне, то ўжо даўно зняла б і не дапускала новых рэпрэсій супраць грамадзянскай супольнасці. Тым не менш я вітаю любыя намаганні па вызваленні нашых дзяцей, мужоў, братоў... І калі ўжо вызваленне немагчымае, то я прасіла б еўрапейскіх палітыкаў хаця б наведаць іх у месцах зняволення. Тут, у Беларусі, мы проста не маем праўдзівай інфармацыі пра тое, што там, у турмах ды калоніях, адбываецца. На мінулым тыдні наш адвакат ездзіла да Ігара, але ім проста не далі сустрэцца адзін на адзін. Калі б еўрапейцы дабіліся хаця б асабістых сустрэч з палітвязнямі, я была б ім вельмі ўдзячная.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ВЫБАРЫ-2012

## Знаёмыя асобы

*Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі.*

У прыватнасці, кандыдатамі ў члены Савета Рэспублікі вылучаны старшыні аблвыканкамаў: Віцебскага — **Аляксандр Косінец**, Гомельскага — **Уладзімір Дворнік**, Мінскага — **Барыс Батура**, Брэсцкага — **Канстанцін Сумар,** Магілёўскага — **Пётр Руднік**, а таксама генеральны дырэктар Беларускай калійнай кампаніі **Валерый Іваноў**, першы сакратар ЦК ГА "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі" **Ігар Бузоўскі,** цяперашні старшыня верхняй палаты парламента **Анатолій Рубінаў**. Усяго ЦВК зарэгістравала 56 кандыдатаў у члены Савета Рэспублікі.

Выбары ў верхнюю палату парламента пройдуць на пасяджэннях дэпутатаў мясцовых саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню ў кожнай вобласці і дэпутатаў Мінскага гарадскога савета дэпутатаў з 6 па 25 верасня.

Вынікі выбараў членаў Савета Рэспублікі павінны быць устаноўлены Цэнтрвыбаркамам не пазней за 5 кастрычніка ўключна.

Калі "губернатары" будуць абраны ў Савет Рэспублікі, гэта не азначае, што яны пакінуць свае пасады. Старшыні ўсіх аблвыканкамаў заўсёды з'яўляюцца членамі Савета Рэспублікі. Працу ў "сенаце" ў цяперашні час з асноўнай сумяшчаюць і такія вядомыя асобы, як кіраўнік холдынга "Амкадор" **Аляксандр Шакуцін**, галоўны рэдактар газеты "Советская Белоруссия" **Павел Якубовіч** і іншыя.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДАТА

## Усяго пятнаццаць!

*Малавядомыя факты пра «Малады фронт», які зарэгістраваны ў Чэхіі, а дзейнічае ў Беларусі*

Скажаце, глупства. Так, глупства ўлад нашай краіны вымусіла нацыянальна зарыентаваных хлопцаў і дзяўчат рэгістравацца ў Празе, не пакідаючы Мінска. А паколькі ў маладых свой погляд на жыццё, то і выказваць яго яны вырашылі самымі рознымі спосабамі. Хоць афіцыйна такой арганізацыі ў Беларусі нібы і не існуе, тым не менш пра яе дзейнасць часцяком расказваюць нават афіцыйныя тэлеканалы. У выглядзе страшылак, зразумела...



А пачыналася ўсё 15 гадоў таму.

У тыя часы ва ўправе Партыі БНФ усім не хапала месцаў, і іншы раз людзі вымушаны былі натоўпам стаяць на вуліцы. Пік масавасці прыпадаў на вячэрні час, пасля асноўнай працы. Дыскусіі, спрэчкі, жарты... Але каго папрасіць за дзверы, калі не хапае месца? Зразумела, моладзь. Вось тагачасны сакратар управы Барыс Гюнтэр час ад часу выскокваў з-за стала і звяртаўся да шумнага натоўпу: "Шаноўнае спадарства, калі ласка, выйдзіце на вуліцу, не хапае паветра, трэба праветрыць памяшканне!" І сам выходзіў, пачынаючы горача спрачацца з чарговым наведвальнікам.

Самыя маладыя потым ужо і не рваліся ў памяшканне (хіба толькі зімой). Тусаваліся-тусаваліся паміж сабой і раптам сталі самастойнай з'явай у беларускай палітыцы, апынуўшыся самымі непрадказальнымі ўдзельнікамі вулічных акцый. То нечыя сцягі спаляць, то партрэты нейкай адыёзнай асобы, то раптам, напрыканцы мітынгу, калонай пойдуць на праспект, а там — бягом на плошчу Незалежнасці. Вось і пачыналіся баталіі з АМАПам... За гэта ім час ад часу трапляла ад "дарослага кіраўніцтва".

Безумоўным аўтарытэтам сярод моладзі карыстаўся Павел Севярынец. Маладыя радыкалы гуртаваліся вакол інтэлігентнага юнака, і нарэшце з гэтага ўтварылася самастойная арганізацыя. Але не выключана, што калі б старэйшыя партыйцы не ставіліся з пэўнай няўвагай да моладзі, то так бы пры Партыі БНФ яны і засталіся.

Падлічана, што за 15 гадоў існавання незарэгістраванай арганізацыі яе сябры агулам правялі за кратамі больш за 15 гадоў. Можна ўявіць сабе, колькі патрыётаў прайшлі праз адміністрацыйныя арышты. Дарэчы, у палітыцы "Малады фронт" з'яўляецца рэкардсменам і па колькасці крымінальных спраў. Каля паўсотні іх было распачата толькі па артыкуле 193Крымінальнага кодэкса за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі.

Маладыя актывісты ў 2006-м трымалі самую масавую палітычную галадоўку супраць крымінальнага пераследу сваіх паплечнікаў. Галадоўка доўжылася 24 дні. У ёй удзельнічалі больш за 100 сябраў.

Маладафронтаўцы ініцыявалі правядзенне акцый у дзень Святога Валянціна. Быў час, калі 14 лютага святочныя шэсці адбываліся ў 44 гарадах краіны.

Яшчэ факт. Лідар самага масавага дэмакратычнага маладзёжнага руху Зміцер Дашкевіч знаходзіцца за кратамі. Стваральнік арганізацыі — Павел Севярынец — адбывае пакаранне "на хіміі". Абодвух пакаралі пасля снежаньскіх падзей 2010-га. За кратамі і актывіст Эдуард Лобаў. З такімі "паказчыкамі" маладафронтаўцы адзначаюць сваё 15-годдзе. Але яны з аптымізмам глядзяць у будучыню...

**Любоў ЛУНЁВА.**

АКТУАЛЬНА

## Ліміт 100—110 кілават-гадзін у месяц на траіх?

*Чыноўнікі працягваюць расказваць, які можа быць устаноўлены ліміт на электраэнергію для жыхароў Беларусі. Канчатковае рашэнне яшчэ не прынята. Абяцаюць толькі, што ў гэтым годзе новыя тарыфы дакладна ўведзены не будуць.*

Аказваецца, дыферэнцыраваныя тарыфы на аплату электраэнергіі распрацавалі ў "Белэнерга". Спецыялісты сыходзілі з колькасці прапісаных у кватэры чалавек і сезона. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення збыту гэтай арганізацыі **Сяргей Шабека**.

Паводле яго слоў, у кватэрах **з газавымі плітамі** ў міжацяпляльны сезон **з 1 красавіка па 30 верасня** плануецца ўстанавіць сацыяльны тарыф **70 кВтг** на аднаго чалавека і па **15 кВтг** на кожнага дадаткова зарэгістраванага чалавека. У ацяпляльны сезон **— з 1 кастрычніка па 30 сакавіка** — тарыф на аднаго чалавека складзе **80 кВтг**, на кожнага іншага члена сям'і — плюс **15 кВтг**. Такім чынам, атрымліваецца, што плаціць па льготным тарыфе сям'я з трох чалавек будзе за 100 і 110 кВтг у адпаведнасці з сезонам.

За тое, што насельніцтва будзе спажываць звыш устаноўленага, па словах Шабекі, прыйдзецца плаціць **595 рублёў за кВтг**.

**У кватэрах з электрычнымі плітамі** прапануецца наступная схема: у міжацяпляльны сезон — **120 кВтг** на аднаго чалавека і **20 кВтг** на кожнага дадаткова зарэгістраванага. У зімовы сезон адпаведна **135 кВтг і 20 кВтг.**

Па словах Сяргея Шабекі, канчатковае рашэнне па гэтым пытанні яшчэ не прынята. Чыноўнікі нават прапаноўваюць падключыцца к абмеркаванню і жыхарам краіны. Абяцаюць, што ў хуткім часе запрацуюць гарачыя тэлефонныя лініі, пра што будзе паведамлена дадаткова. Хаця часу застаецца няшмат — меркаванні грамадзян плануецца вывучаць да 1 лістапада.

Дарэчы, сёння насельніцтва спажывае каля 20% ад усёй электраэнергіі, якая выкарыстоўваецца ў Беларусі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Разбор палётаў і раздача сланоў

*Пасля няўдалага выступлення нашых алімпійцаў на Алімпіядзе-2012 у Лондане беларускія спартыўныя чыноўнікі ўжо пачалі разбіраць палёты і раздаваць сланоў.*

На гэтым тыдні адбылося сумеснае пасяджэнне калегіі Міністэрства спорту і турызму і выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі. Рэзкі тон выказванняў міністра спорту **Алега КАЧАНА** ў адрас трэнераў і спартсменаў абурыў нават балельшчыкаў, якія падчас апытання на форуме pressball.by паставілі свой дыягназ спічу чыноўніка: "Смешна і нязручна".

Дык аб чым казаў міністр спорту? Вось некаторыя цытаты з яго выступлення:

*"Я прымаю і падзяляю ўсю адказнасць за вынік, але і рэгіёны павінны падзяліць адказнасць. Даводзілася літаральна прасіць спартсменаў паказаць высокі вынік. Многія спецыялісты галіны страцілі цікавасць да працы і проста стаміліся".*

*"Не разумею, чаму да апошняга ўтойвалася бытавая траўма вясляркі Кацярыны Карстэн, з-якой яна заняла толькі пятае месца, а штурхальнік ядра Андрэй Міхневіч не прайшоў кваліфікацыю. Ён сказаў, што спіна падчас руху хруснула. Мне ўсё роўна: хруснула — не хруснула, павінен быў штурхнуць".*

*"Усе ў штаны наклалі? 30—40 мільёнаў прэзідэнцкай стыпендыі — маленькія грошы з нашым танным сацпакетам?"*

*"Стайкі" вам аддалі, базы будуюцца. Мне патрэбны быў усяго адзін медаль у спартыўнай гімнастыцы, усяго адзін! Дык зрабіце яго ў Магілёўскім цэнтры падрыхтоўкі. Што датычыцца дзіцячага спорту, у нас сістэма падрыхтоўкі лепшая ў свеце. Мы падманулі прэзідэнта. Я яму абяцаў медалі, асабіста. А вы нават прафесійна не можаце адказаць за тое, чаго не зрабілі".*

*"Праваліліся ў лёгкай атлетыцы. Допінгавыя інцыдэнты, адсутнасць галоўнага трэнера і яго памочніка па медыцыне. Многія спартсмены з-за негатоўнасці адмовіліся ад удзелу ў Гульнях. Міністэрства фінансавала падрыхтоўку ў поўным аб'ёме. Хто цяпер верне гэтыя сродкі дзяржаве? Некаторыя спартсмены свядома паказвалі кепскі вынік. Прычыны ўстанаўліваюцца".*

— Усе сілы барацьбе аддалі Азаранка, Герасіменя, а таксама і астатнія прызёры, — дадаў віцэ-прэзідэнт НАК **Мікалай ЗАІЧКОЎ**. — А некаторыя лёгкаатлеты 15 жніўня рванулі на камерцыйныя старты і паказалі вынікі лепшыя, чым на Гульнях, паехалі за грашыма.

Зрэшты, галоўны трэнер зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы **Аляксандр ТРАШЧЫЛА** не разгубіўся і знайшоў што адказаць чыноўнікам.

— Мы прайгралі гэтую Алімпіяду метадычна і фармакалагічна, — заявіў ён. — Усе спартыўныя навінкі да нас не даходзілі. Да таго ж трэба мець добрых спецыялістаў... Кульгаў трэніровачны працэс: недзе перастараліся, але неабходнага выніку не дасягнулі. Нам спатрэбіцца 2—3 гады, каб выбрацца з той ямы ў лёгкай атлетыцы, у якой мы зараз знаходзімся. Сёння змяніліся тэхналогіі, і мы са сваімі старымі меркамі не ўпісваемся. А нічога новага ў нас не з'явілася. Спартсмены былі гатовы змагацца, але яны падышлі да Алімпіяды ні з чым. Расіяне і немцы заходзяць у кабінку, робяць, што ім патрэбна, і ідуць кідаць молат. А тое, на чым рыхталіся мы, — гэта 1979 год.

Па выніках пасяджэння калегіі з'явіўся праект пастановы, у якім рэкамендавана вызваліць ад пасад больш як 50 спартыўных функцыянераў: галоўных і старшых трэнераў, дзяржтрэнераў, кіраўнікоў цэнтраў падрыхтоўкі і федэрацый.

Дарэчы, пасля правальнага выступлення хакейнай зборнай Беларусі на апошнім чэмпіянаце свету першым напісаў прашэнне аб адстаўцы старшыня Федэрацыі хакея Яўген Ворсін. Гэта быў мужчынскі ўчынак.

Ау, таварышы спартыўныя чыноўнікі! Зрабіць вінаватымі спартсменаў — прасцей за ўсё. Можа, трэба лепш з сябе пачынаць?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Выборов в Беларуси нет!



Учреждение
Редакция газеты
«Рэспубліка»
«03» сентября 2012 г.
№ 03-05/5513

Лебедько А.В.
ул. В.Хоружей, 22-1701
г. Минск, 220010

Уважаемый Анатолий Владимирович!

Рассмотрев ваше обращение о публикации предвыборной программы сообщаем следующее.

Представленный материал не может быть отнесен к предвыборной агитации, понятие которой определено в статье 155 Избирательного кодекса Республики Беларусь: деятельность, имеющая целью побудить или побуждающая избирателей к участию в выборах, голосованию за тех или иных кандидатов или против них. Целью представленного материала является агитация против участия в выборах, при этом отказ кандидата в депутаты баллотироваться, фактически аннулирует присвоенный ему статус кандидата в депутаты.

С учетом того, что право на бесплатную публикацию в государственных СМИ предоставляется кандидатам в депутаты для ведения предвыборной агитации и использование данных возможностей для иных целей законом не предусмотрено, полагаем, что материалы, не отвечающие требованиям избирательного законодательства, не могут быть опубликованы в качестве предвыборных агитационных материалов.

Главный редактор А.И. ЛЕМЕШЁНОК

### От редакции «Народной Воли»

*Нам не хотелось бы детально вступать в дискуссию с главным редактором газеты "Рэспубліка" А.Лемешенком. Но скажем: на наш взгляд, его позиция не безупречна. А потому печатаем предлагаемую статью и оставляем последнее слово за читателями.*

То, что в нашей стране называют выборами, выборами не является. У вас украли выборы. Вы спросите: как это? Ведь есть избирательные участки с комиссиями, есть урны с бюллетенями, есть буфет и концерты художественной самодеятельности. Есть антураж, к которому мы привыкли еще с советских времен. Оказывается, этого мало для того, чтобы выборы могли называться выборами.

Начинается все с избирательных комиссий. По процессу их формирования, прежде всего участковых, уже можно сказать, насколько честными будут выборы. Члены комиссий должны быть, по идее, людьми независимыми. Но у нас комиссии, как правило, создаются из представителей одной организации: школы, завода, воинской части. Председатель комиссии — руководитель этой организации или его заместитель. Кто из членов комиссии рискнет поднять голос против своего шефа, рискуя своим будущим и благополучием своей семьи? А допустить к подсчету независимых людей власти боятся: в этот раз — из 70.000 членов участковых комиссий только 61 человек представляет оппозиционные партии, это всего 0,09%! Так как же в таких условиях можно доверять официальным результатам?

Во время предвыборной агитации кандидаты находятся в неравных условиях. Даже положенные по закону каждому кандидату 5 минут для выступлений по радио и телевидению (вдумайтесь — 5 минут за 4 года!) — и те подвергаются цензуре, что является грубейшим нарушением Конституции. Более 30 выступлений кандидатов от ОГП вообще не появились на экранах ТВ и в эфире радиостанций, вместо них пускали рекламу и музыку, хотя все наши кандидаты выступали в строгом соответствии с законом. Просто они говорили неудобные для властей вещи. Власти боятся, что вы можете узнать правду.

А ситуация с досрочным голосованием? Пять дней руководство предприятий и организаций всеми способами побуждают своих подчиненных голосовать досрочно. В ход идут и кнут, и пряник. Кому-то обещают отгулы, кому-то переносят занятия, кому-то просто угрожают. И все потому, что урны для голосования пять ночей остаются практически без присмотра. Сколько раз независимые наблюдатели фиксировали и фотографировали факты, когда печать на этих урнах утром в воскресенье разительно отличалась от той, которая была в субботу вечером. В 2008 году подполковник милиции Николай Козлов за руку поймал председателя комиссии, который вбрасывал фальшивые бюллетени! Но в отставку пришлось уйти Николаю Козлову, а председатель комиссии и на этих выборах займется подсчетом голосов.

Кстати, о нем, о подсчете. Казалось бы, чего скрывать? Поднимите бюллетень и продемонстрируйте всем присутствующим, за кого подан голос! Нет, все делается тайно. Члены комиссий общаются друг с другом исключительно записками. Независимых наблюдателей оттесняют как можно дальше, а если кто-то из них пытается отстаивать свои права, их просто удаляют с участка под любым предлогом.

Уважаемый избиратель! Если Вам кажется, что мы сгущаем краски, станьте наблюдателем и убедитесь на своем опыте, что все, сказанное здесь, — чистая правда. Сделать это пока несложно: соберите десять подписей Ваших соседей и родственников, проживающих на территории избирательного участка, и — вперед! Можно просто фиксировать нарушения на фотоаппарат, на камеру мобильного телефона, отслеживать реальную явку избирателей на участки.

Последние свободные выборы были в стране в далеком 1994 году. Именно тогда пришел к власти Лукашенко. Да, при честных выборах ошибки бывают. Но ведь мы с вами уже в 1998-м исправили бы свою ошибку, если бы выборы оставались честными. Но был проведен сомнительный референдум, последовал разгон Верховного Совета, был похищен председатель Центризбиркома Виктор Гончар... Произошла череда странных смертей, а похищенные Виктор Гончар, Юрий Захаренко, Дмитрий Завадский до сих пор не найдены. От демократии и выборов остался пшик.

### ОГП снимет своих кандидатов за неделю

Есть еще одно обстоятельство, которое делает полноценное участие в выборах не только бессмысленным, но и аморальным: В XXI веке в нашей стране в центре Европы люди сидят в тюрьме за свои убеждения. В том числе бывший кандидат в президенты Николай Статкевич, правозащитник Алесь Беляцкий, молодой борец за демократическую Беларусь Дмитрий Дашкевич, философ Игорь Олиневич и другие.

**Поэтому Вы не увидите фамилий кандидатов от ОГП в избирательных бюллетенях. Мы снимем свои кандидатуры за неделю до голосования. Мы не хотим участвовать в унизительном спектакле. Мы считаем, что при системе управления, которую олицетворяет нынешний руководитель страны, честные, справедливые, прозрачные выборы невозможны. Что делать Вам — решите для себя сами. Каждый разумный человек в состоянии трезво оценить ситуацию и сделать правильный выбор.**

### Необходимы честные выборы

А между тем без свободных выборов невозможна конкуренция идей, партийных программ и отдельных личностей, что и делает парламент в его нынешнем виде таким безликим. Вспомните, известна ли вам фамилия вашего депутата, за которого вы голосовали на выборах в парламент или местный совет? Вдумайтесь, нынешние депутаты Палаты представителей, на выборы которых потрачена уйма денег, которые четыре года получали министерскую зарплату, за все эти годы по собственной инициативе приняли один-единственный закон! Все остальное время они одобряли то, что было предложено Администрацией президента или правительством. Не слишком ли дорогое удовольствие?

Без честных выборов невозможно привлечение инвестиций, развитие предпринимательства, создание новых рабочих мест. Без честных выборов невозможен рост благосостояния простых людей.

К чему приводит отсутствие честных выборов, отсутствие демократии в стране, мы с вами увидели в 2011 году, когда после президентских выборов зарплаты и пенсии рухнули в два раза, а накопления — почти в три! А что будет после этих "выборов"?

В чем же дело? Неужели в стране такой дефицит умных людей, грамотных специалистов? Конечно же, нет. Просто они у нас не востребованы. Когда власть занята собственным выживанием, она тасует одну и ту же колоду, тогда бывший глава Национального банка, уверявший всех, что девальвации не будет, становится помощником президента по экономике, а министром иностранных дел становится невъездной в Европу глава президентской администрации.

(Окончание на 2-й стр.)

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Губляем вёску — страчваем сябе...

*Цяўлава — адна са шматлікіх вёсак Дзяржыншчыны. І на карце Міншчыны пазначана, і дарожны ўказальнік маецца... Але ўсё гэта віртуальна, бо на самай справе вёскі як такой — з хатамі, падворкамі, людзьмі — ужо няма...*



Вузкая, уся ў калдобінах гравейка змейкай віецца між пагоркаў, абрамленых стромымі ліпамі, купчастымі вязамі і разлапістымі дубамі. Спыняемся пад шатамі нахіленага да зямлі вербалозу на самым ускрайку паселішча — далей толькі пешкі... *“Зарасло так, што ніякая каса не ўкосіць,* — кідае праз плячо мой суправаджаты-сталкер дзядзька Анатоль. — *А некалі ж была вясковая вуліца — хадзілі людзі, вяселлі гулялі, дзеці бегалі... Цяпер во — джунглі сапраўдныя, буш афрыканскі... Адно слова — мёртвая зона. Усё роўна як Мамай прайшоў ці якая халерная навалач вымела ўсіх... Скажы каму, што пад бокам сталіцы — дваццаць якіх вёрст, — ніхто не паверыць...”*

Пакуль прадзіраліся праз высозную крапіву і здзічэлыя яблыні, Анатоль Данілавіч абмаляваў сітуацыю: *“Некалі была вёска як вёска — мо паўсотні двароў, цяпер — сам бачыш — дзікая пустэльня. Людзей, што заставаліся, перасялілі: каго ў Чаркасы, каго ў Вязынку ці яшчэ куды... Малаперспектыўнае паселішча, не ўпісваецца ў стратэгію развіцця агракамбіната...”*

**Да ведама.** Цяўлава ўваходзіць у склад Фаніпальскага сельскага савета, з’яўляецца (намінальна) адным з падраздзяленняў агракамбіната “Дзяржынскі” — флагмана сельгасвытворчасці не адно Дзяржынскага раёна, але ўсяе краіны. Гаспадарка і напраўду прыбытковая, высокарэнтабельная: сюды прыязджаюць пераймаць вопыт, вучыцца гаспадарыць. Нядаўна сам Лукашэнка наведваўся. Праўда, Цяўлава яму ніхто не паказаў... А дарэмна: варта было падзівіцца і на гэтую Богам забытую вёсачку... Дакладней сказаць, на тое месца, дзе яна была, і на тыя землі, што зараслі хмызам, крапівою і самасеем-падлескам. Канечне, урбанізацыя захліснула сельскую мясцовасць: аграгарадкі растуць, як грыбы па восені, тэхніка прыйшла на змену мазольным рукам, але ж зямля па-ранейшаму — усяму галава. Ад яе дагледжанасці, урадлівасці залежыць, наколькі тыя бройлеры будуць прыбытковымі. Некалі Рыгоравіч разам з “губернатарам”, “мэрам” Мінска ды іншымі чыноўнікамі аблётваў прылеглыя да сталіцы тэрыторыі — выглядвалі якраз закінутыя пусткі. Відаць, да Цяўлава не хапіла ў верталёта газы... А тут жа столькі гектараў некалі ўрадлівай зямелькі. І ніяк не дацягнуцца да іх “мазольныя” рукі высокіх чыноўнікаў...

Згодна з апошнім перапісам насельніцтва, на вёсцы ўсё яшчэ пражывае больш за чвэрць беларусаў. Урбанізацыя пакрысе выціскае вясковы люд у вялікія гарады і аграгарадкі, ці, як сказаў прафесар Шыбека, у “пацёмкінскія вёскі”. І — па ўсім — працэс гэты незваротны. Так было і ў Еўропе: цяпер у Германіі ды Францыі ў сельскай мясцовасці пражывае не больш за пяць працэнтаў ад усяго насельніцтва, і гэты мізэр людзей цалкам забяспечвае свае краіны сельгаспрадуктамі. Іншая справа, што ўрадлівая зямля там не гуляе сама па сабе. А ўсё таму, што кожны кавалачак зямлі мае свайго **гаспадара. Ці будзе такі гаспадар у Цяўлаве?..**

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

СТАЛІЦА

## *Арэнда жылля ўзрасла амаль на 30%*

*Так, калі ў мінулым годзе аднапакаёвую кватэру можна было зняць за 180 долараў, то ў гэтым — не менш як за 230.*

Пра гэта карэспандэнту агенцтва “Мінск-Навіны” паведаміла начальнік аддзела арэнды агенцтва нерухомасці “Твая сталіца” Наталля Радзеня.

Двухпакаёўкі ў мінулым годзе здавалі за 250 долараў, у бягучым — за 270—300. Трохпакаёвую кватэру можна было арандаваць за 270 долараў у месяц, цяпер — за 300—320 долараў.

ПРАЕКТ

## *Расійскі «Альфа-Банк» плануе набыць яшчэ адзін банк у Беларусі*

*Як сцвярджае старшыня савета дырэктараў банкаўскай групы “Альфа-Банк” Пётр Авен, за чатыры гады працы на беларускім рынку “Альфа-Банк” “прадэманстраваў высокую дынаміку росту”.*

“За час, які мы тут знаходзімся, мы выраслі па актывах у 11 разоў, па крэдытным партфелі — у 15, па сродках насельніцтва, якія ў нас на рахунках,— у 6,5 раза”, — заявіў Авен на сустрэчы з прэм’ер-міністрам Беларусі Міхаілам Мясніковічам.

# Выборов в Беларуси нет!

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## Выход из тупика есть

Экспертами нашей партии (ОГП) за последние несколько лет разработаны и предъявлены обществу программа “Миллион новых рабочих мест” и “Антикризисная программа”. Они постоянно совершенствуются и сейчас актуальны, как никогда. Вдумайтесь: около миллиона белорусов работают за пределами нашей страны, это практически каждый четвертый трудоспособный! Средняя зарплата в стране никак не может зацепиться за пятьсот долларов, тогда как в соседних России, Польше, Литве она уже в два-три раза больше. И это при более низких ценах! В наших условиях, когда нет развития экономики, роста производительности труда, любое повышение зарплат и пенсий приводит в результате к очередному переписыванию ценников в магазинах.

Не надо обманывать себя и людей, что в условиях жесткого авторитаризма может победить чье-то иное мнение, кроме приказов Лукашенко. Все без исключения выступления кандидатов от ОГП — это еще одна попытка убедить граждан, что народ — это единственный носитель власти в демократической республике. Это он, и никто другой, делегирует часть своих полномочий депутатам, судьям, президенту, оставляя за собой право контроля над их деятельностью, и право переизбирать свою власть, если она работает неэффективно.

У вас это право отняли! Беларусь сейчас трудно назвать республикой и тем более — демократической. У нас нет гражданского общества — той силы, которая доминирует во всех цивилизованных странах. Поэтому наша главная задача — эту силу обрести. Когда граждане вернут себе власть, то время вожаков-харизматиков закончится, а Конституция станет основным законом жизни.

Лукашенко стал тормозом на пути развития страны. Он отметает все, что угрожает режиму его личной власти. Есть ли выход из всего этого мрака? Объединенная гражданская партия твердо отвечает: да. Для этого нужны реальные рыночные реформы, масштабные инвестиции, внутренние и зарубежные, но обязательно связанные с новейшими технологиями, обеспеченные рынками сбыта. Только они могут создать новые рабочие места с достойной зарплатой, позволяющей нашим гражданам не срываться с насиженных мест в поисках лучшей доли. Нужна свобода частного предпринимательства. Рецептов много, все они выстраданы нашими соседями, никто не мешает нам использовать лучший опыт, избегая допущенных ими ошибок.

## Что предлагает Объединенная гражданская партия?

1. Устранить бюрократические препятствия для инвестиций, особенно связанных с инновационными технологиями.

2. Прекратить тайную приватизацию, проводить ее открыто, перечисляя вырученные средства в первую очередь в пенсионный фонд и в фонд социальной защиты.

3. Сократить количество чиновников, прежде всего “идеологов” и им подобных.

4. Реорганизовать систему помощи безработным, гарантировав им достойное пособие, бесплатное переобучение, государственную помощь при необходимости перемены места жительства.

5. Восстановить хорошие отношения с соседними странами, ЕС и США, использовать помощь международного сообщества.

6. Создать систему местного самоуправления, при которой местная власть должна избираться гражданами и отчитываться перед ними.

7. Вопрос строительства атомной электростанции отложить до проведения свободных выборов в стране.

Более подробно о предложениях Объединенной гражданской партии по обустройству Беларуси читайте на сайте ucpb.org и в бюллетене сторонников ОГП “Голос разума”.

## За честные выборы без «Лукашенко»!

Еще раз подчеркнем, что все это возможно осуществить только при условии честных и справедливых выборов, реального разделения властей, когда законодательная и судебная ветви власти независимы от исполнительной и располагают своими полномочиями в полном объеме.

Никакие экономические реформы невозможны, когда ветви власти являются чахлыми обрубками на стволе президентской вертикали.

Поэтому сегодня, когда выборов нет, мы снимаем свои кандидатуры. Но завтра, когда власть под давлением общества вынуждена будет пойти на переговоры и мы добьемся освобождения политзаключенных, соблюдения демократических прав и свобод, мы сами позовем вас к урнам для голосования, но это уже будут совершенно другие выборы, под контролем общества, то есть нас с вами.

В них мы будем участвовать, а пока у власти режим Лукашенко, никакой демократии, никакого верховенства закона у нас нет. Поэтому Объединенная гражданская партия начинает кампанию **“За честные выборы без “Лукашенко”!”,** которую будет вести до победы — до проведения по-настоящему честных выборов, выборов по стандартам ОБСЕ.

Если вы тоже считаете, что ситуацию пора менять, присоединяйтесь! Реализуйте свое конституционное право участвовать или не участвовать в фальшивом голосовании, а это и есть ваш выбор, ваш первый шаг к честным выборам без Лукашенко. То, что происходит сейчас, — это не волеизъявление народа, а трагический фарс, в котором нет смысла участвовать.

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО,**
**председатель Объединений гражданской партии,**
**депутат Верховного Совета 12-го и 13-го созывов,**
**Николай КОЗЛОВ,**
**член Объединенной гражданской партии,**
**подполковник милиции в отставке,**
**Анна КАНОПАЦКАЯ.**
**член Объединений гражданской партии, юрист,**
**директор частного предприятия.**

### ОТ РЕДАКЦИИ

**Пользуясь случаем, “Народная Воля” напомнила А.Лебедько о письме избирателя А.Гучевского, который в предыдущем номере газеты предложил ОГП организовать такой контроль в 5—6 округах, который не позволил бы сфальсифицировать результаты голосования. К сожалению, лидер партии ответил, что это предложение, на их взгляд, нецелесообразно.**

ВЫБОРЫ-2012

*Евгений КРЫЖАНОВСКИЙ:*

# «Политик — прежде всего хороший артист»

*Кандидат в депутаты, известный артист Евгений Крыжановский во время телеэфира пообещал избирателям: стану депутатом — заведу пятого ребенка.*



Если от выступлений некоторых кандидатов в депутаты (в том числе и тех, кто идет от оппозиции) плакать хочется, то спич Крыжановского, по меньшей мере, вызвал улыбку.

Евгений Анатольевич сразу заявил, что в парламенте должны быть люди узнаваемые. А белорусы больше знают российских и даже украинских депутатов, чем тех, кто заседает в Палате представителей. И даже академик, председатель Совета Республики **Анатолий Рубинов** не знает своего депутата!

*“Так быть не должно,* — сделал однозначный вывод Крыжановский. — *Артисты тоже вносят свой вклад в политику.* ***Рональд Рейган****, который победил в “холодной войне” Советский Союз.* ***Арнольд Шварценеггер****, который был много лет губернатором Калифорнии. Уважаемый многими* ***Михаил Евдокимов*** *(к сожалению, ушедший из жизни) был любимцем всего Алтая и вывел бы этот край на высокое место в России.* ***Иосиф Кобзон, Александр Розенбаум****... Фамилии можно называть и дальше — это говорит о том, что артисты могут быть политиками. Потому что политик — прежде всего хороший артист. И наоборот — в любом сатирике есть политик...”*

Крыжановский отметил, что выступает за партийный парламент.

“*Нашу Палату представителей называют “парламентом назначенцев”, говорят, что туда попадают по неким спискам,* — говорил он в эфире. — *Давайте докажем, что это все не так — выберем Евгения Крыжановского, который борется с действующим депутатом! И тогда посмотрим, назначенец он или нет. Партийный парламент — это самая правильная система. Потому что сотни, тысячи, десятки тысяч людей объединяются вокруг какой-то идеи и идут в парламент. Остальные к ним будут присоединяться. Так делается во всем мире, к сожалению, у нас пока такого нет”.*

Крыжановский отметил, что не побоится сказать “против”, даже если весь парламент будет голосовать “за”.

*“Я скажу: так решили мои избиратели,* — обещает артист. — *И сниму с себя ту самую неприкосновенность, которой так гордятся многие депутаты. Почему вы гордитесь, что до вас нельзя дотронуться? Я не боюсь ни милиции, ни Следственного комитета, ни прокуратуры. Потому что я честный человек”.*

*“Мне 57 лет,* — рассказал о себе руководитель театра “Христофор”. — *У меня четверо детей. Все дочери. Младшей Ксюшке — 4 годика. Обещаю вам: если 23 сентября вы проголосуете за Евгения Крыжановского, то у меня будет пятый ребенок”.*

Напоследок Евгений Анатольевич, чтобы не быть очень серьезным, рассказал анекдот. Про выборы.

*“Спрашивают кандидата:*

*— Почему вы идете на выборы?*

*— Да потому что в нашем парламенте разврат, взяточничество, ничегонеделание!*

*— Вы хотите с этим бороться?*

*— Нет, я хочу во всем этом участвовать!”*

*“Давайте вместе сделаем так, чтобы этот анекдот остался анекдотом,* — подытожил он. — *Выбирая Крыжановского, вы выбираете прежде всего себя. Потому что я — такой же, как и вы. Народный депутат — он должен быть из народа. Те депутаты, которые прячутся, которых нельзя найти, — они не народные. Меня легко найти — и в театре, и на телевидении, и на улице. Я всегда буду рядом с вами”.*

Дебаты с участием **Евгения Крыжановского, Светланы Шиловой** и **Анатолия Лебедько** *(он появился в эфире как доверенное лицо* ***Владимира Романовского****, выступление которого, скажем мягко, было совсем не ахти. Шилова после какой-то резкой фразы попыталась подколоть лидера ОГП: мол, кто пойдет в Овальный зал в случае победы — он сам или все-таки Романовский?),* тоже не остались незамеченными. Вернее, они стали самыми яркими из всех тех, которые уже вышли на экран.

*“Мне кажется, хватит вам одного срока,* — сказал Крыжановский своей оппонентке. — *Профессия ждет вас, Светлана Дмитриевна! Я считаю, что надо возвращаться в семью...”* И добавил: *“Вы же уважаете Лидию Михайловну Ермошину? Да? А она сказала: женщины, не занимайтесь политикой, варите борщи. У вас трое детей, муж, варите им борщи!”*

Конечно, с точки зрения гендера высказывание Крыжановского заслуживает хорошей критики, но, с другой стороны, Светлане Шиловой, прославившейся своими одиозными заявлениями, оправдывающими власть, комплименты говорить не за что...

### КОНКУРЕНТЫ

Крыжановский баллотируется по Юго-Западному избирательному округу №99.

Его соперники — член ОГП пенсионер **Владимир Романовский**, директор СШ №207 **Екатерина Савчук**, зампред комиссии ППНС **Светлана Шилова**.

БЛИЦ

## *А вы следите за выступлениями кандидатов в депутаты?*

**Валерий ШЕВЧУК, предприниматель:**

— Я смотрел выступления кандидатов, видел некоторые теледебаты. К сожалению, большинство из тех, кто получил заветные 5—10 минут эфира, используют его бездарно. Выступления бледные, незапоминающиеся — набор общих фраз. Никто даже не раздевается в эфире! Я читал, что кандидатов в депутаты перед записью на камеру предупреждают о недопустимости клеветы, различных призывов. Но ведь можно продумать все до мелочей и сделать за эти пять минут настоящие шоу, но, увы...

**Светлана ЛИКУС, преподаватель черчения:**

— Нет, ни одного выступления не видела. Мне это совершенно не интересно. Я вообще мало смотрю телевизор, а тратить свою жизнь на чьи-то лозунги, на мой взгляд, совершенно бессмысленно...

**Георгий ПУНШ, работающий пенсионер:**

— Не смотрю. Я взял отпуск на пару недель, чтобы выкопать картошку и навести порядок на дачном участке. В этом году у нас много яблок, жена перерабатывает их на соковарке, а я ей помогаю их чистить и резать. За опятами ходил — так что не до выборов, честно говоря. Вечером перед сном новости смотрю, чтобы быть в курсе происходящего в стране, и все на этом.

**Вероника РИЗНО, менеджер:**

— В то время, когда кандидаты в депутаты выступают, я обычно на кухне ужин готовлю — под включенный телевизор. Но, признаюсь, один раз послушала некоторых и переключила на НТВ. Неинтересно и скучно...

**Марина КОКТЫШ.**

### ГЛАС НАРОДА

На днях в редакцию позвонил читатель и возмутился: *“Обнаружил в почтовом ящике агитационное послание от кандидата в депутаты* ***Геннадия Пальчика*** *(я проживаю в Есенинском избирательном округе №100). На мой взгляд, это просто насмешка! На бумаге — одни общие слова и лозунги! Ни биографии, ни телефонов, по которым можно было бы связаться с этим кандидатом. Только маленькими буквами внизу указан тираж, которым отпечатаны листовки, и электронный ящик. Даже не сказано, где этот господин Пальчик работает! Я, конечно, могу поинтересоваться, кто он такой, но мне такой подход к избирательной кампании кажется слишком самонадеянным. Видимо, человек настолько уверен, что попадет в парламент, что даже не удосуживается рассказать о себе какие-то элементарные вещи!”*

На всякий случай сообщаем: Геннадий Пальчик возглавляет Национальный институт образования.

